НА ПАЛІЦАХ

## *Маркетынгавы ход*

Кіраўніцтва гандлёвай сеткі “Еўраопт” абяцае прэмію пакупнікам, якія знойдуць на паліцах крам пратэрмінаваныя тавары.

Напрыканцы мінулага тыдня гандлёвая інспекцыя Мінгандлю апублікавала жорсткае заключэнне: у кожнай трэцяй краме сеткі “Еўраопт” рэалізуецца пратэрмінаваная прадукцыя.

Учора генеральны дырэктар сеткі **Андрэй Зубкоў** даў свой каментарый onliner.by: *“За перыяд з 1 жніўня па 21 лістапада бягучага года гандлёвай інспекцыяй і санітарна-эпідэміялагічнымі службамі праверany ўсе 156 магазінаў “Еўраопт”. Усяго гэтымі службамі было праведзена 196 праверак, і ў іх выніку было выяўлена 228 адзінак пратэрмінаванага тавару. За гэты перыяд у гандлёвых аб’ектах сеткі было рэалізавана 497 млн адзінак тавару, гэта значыць 1 адзінка пратэрмінаванага тавару прыходзілася прыкладна на 2 млн адзінак якаснага тавару”.*

Ён таксама паведаміў, што цяпер наўзамен пратэрмінаванага тавару пакупніку перадаецца якасны тавар бясплатна і вяртаюцца грошы, калі ён аплаціў пратэрмінаваны тавар. А з 1 снежня за знойдзены пратэрмінаваны тавар пакупніку будзе выплачвацца грашовая прэмія ў двайным памеры кошту гэтага тавару.

ЧУЛІ?

## *Пенсіі абясцэньваюцца*

У Беларусі рэальны памер прызначаных пенсій (разлічаных з улікам змены індэксу спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у кастрычніку 2013 года ў параўнанні з кастрычнікам 2012 года павялічыўся на 9,8%, а ў параўнанні з вераснем 2013 года зменшыўся на 1,9%. Такія даныя апублікаваў Белстат.

Сярэдні памер прызначаных пенсій склаў 2 млн 102,4 тыс. рублёў.



ТЫМ ЧАСАМ

## *Кошты растуць*

У Беларусі на 10 працэнтаў павышаюцца гранічныя максімальныя адпускныя цэны на некаторыя віды хлеба і булачных вырабаў, мяса куранят-бройлераў і курыныя яйкі. Падаражэе таксама малочная прадукцыя.

Гэта прадугледжана пастановай Мінэканомікі Беларусі №86 ад 18 лістапада 2013 года, афіцыйна апублікаванай 23 лістапада на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА.

*“Гэтай пастановай па прапанове Мінсельгасхарчу прадугледжана магчымасць павышэння на 10 працэнтаў у лістападзе 2013 года гранічных максімальных адпускных цэн на хлеб жытні і з сумесі жытняй і пшанічнай мукі, булачныя вырабы з пшанічнай мукі з колькасцю па рэцэптуры цукру і тлушчаў у суме не больш як 14 працэнтаў”,* — паведамілі ў Міністэрстве эканомікі. Размова ідзе аб рэгуляванні цэн на тыя віды хлеба і булачных вырабаў, якія выпякаюцца па простай рэцэптуры без дадатковай сыравіны і належаць да ніжняй цэнавай групы.

Таксама дакумент прадугледжвае магчымасць павышэння на 10 працэнтаў у лістападзе гранічных максімальных адпускных цэн на мяса куранят-бройлераў і курыныя яйкі.

*“Акрамя таго, дадзены дазвол павялічыць гранічныя максімальныя адпускныя цэны на малочныя прадукты: на нізкатлустыя віды малочнай прадукцыі без смакавых дабавак і напаўняльнікаў — на 3,5 працэнта ў лістападзе 2013 года і на 3,5 працэнта ў снежні 2013 года; на высакатлустыя віды малочнай прадукцыі са смакавымі дабаўкамі і напаўняльнікамі — на 2,5 працэнта ў лістападзе 2013 года і 2,5 працэнта ў снежні 2013 года”,* — дадалі ў Мінэканоміцы.

Пастанова ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання.

РЭГІЁНЫ

## *Брэсцкі аэрапорт адрамантуюць туркі?*

*Аэравакзал, які ў часы росквіту прымаў дзясяткі рэйсаў у дзень, а сёння амаль незапатрабаваны, можа атрымаць новае жыццё.*

Сёння ў раскладзе брэсцкага аэрапорта толькі адзін рэгулярны рэйс: Брэст—Калінінград. У сезон кампанію яму складаюць два пастаянныя турыстычныя чартары ў Балгарыю (Бургас) і Турцыю (Анталія). Амаль не засталося і грузавых рэйсаў. Калісьці Брэст славіўся магчымасцямі свайго аэрапорта, але сёння ён не можа канкурыраваць з чыгункай, дый еўрапейскія аэрапорты зачынены для старых савецкіх самалётаў, паведамляе vb.by.

Ёсць шанц, што жыццё аэрапорта зменіцца. Яго рэканструкцыяй могуць заняцца турэцкія інвестары, хаця раней хадзілі чуткі, што аэрапорт купяць прадстаўнікі Кувейта ці Кітая.

## *Страшная смерць*

*У Камянецкім раёне знойдзена цела мясцовага жыхара, якога разадралі сабакі.*

Цела на вуліцы знайшоў вясковец. Высветлілася, што нябожчык быў 50-гадовым мясцовым жыхаром. Зараз судмедэксперты вызначаюць, ці быў мужчына мёртвы да таго, як да цела дабраліся жывёлы. Адна з версій гібелі — сардэчны прыступ. Праверку па факце трагедыі вядуць супрацоўнікі ўпраўлення Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці.

## *Майстры буйнога крадзяжу*

*У Мялешкавіцкім лясніцтве Мазырскага раёна ў адзін дзень знікла цэлая дзялянка лесу.*

Аб гэтым паведамілі пасля праверкі работнікі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Пра тое, што браканьеры высеклі больш за 20 дубоў, альшын, грабаў, ім распавялі мясцовыя жыхары.

Папярэдне страты ацэнены ў 35 мільёнаў рублёў, прыводзіць лічбы sb.by. Спецыялісты адзначылі, што апрацоўвалі дзялянку “чорныя” лесарубы — надта прафесійна спілаваны дрэвы.

## *У Гомелі навучэнка ліцэя «замініравала» вакзал*

*Матывы ўчынку хуліганкі дагэтуль невядомыя.*

Званок па тэлефоне “102” прагучаў пасля абеду ў нядзелю. Невядомая жанчына паведаміла, што замініраваны вакзал у Гомелі. Пасля абследавання двух вакзалаў інфармацыя не пацвердзілася. Пазней праваахоўнікі высветлілі, што ў міліцыю тэлефанавала навучэнка Касцюковіцкага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага прафесійнага ліцэя, жыхарка гарадскога пасёлка Касцюкоўка 1997 года нараджэння. Супраць яе ўзбуджана крымінальная справа.

КВАРТИРНЫЙ ВОПРОС

# Минчанка 13 лет судится за свою квартиру

*Фельдшер “скорой” не может смириться с тем, что перед смертью ее бывший муж продал часть общей квартиры. Сегодня Алла Московкина боится, что ее жилплощадь отойдет банку за чужие долги.*

### “Ребенок ночует в машине, где инфекционных больных возят!”

Все началось в далеком уже 1997 году с разлада в семье. Муж бросил семью, когда только внесли первый взнос за жилье, началось строительство дома.

— *Наша с дочкой жизнь его больше не интересовала,* — вспоминает Алла Михайловна. — *Все проблемы приходилось решать самой. Три года я всеми силами старалась погасить кредит за жилье. В марте 2000 года мне это удалось. Именно тогда мой благоверный появился вновь.*

Бывший супруг направился прямиком в суд. Заявил, что бывшая жена не выполняет обязательства по кредиту, имеет долги по квартплате и вообще — квартиру надо делить! Несмотря на то, что кредит Алла гасила сама, занимала деньги у родных и знакомых, суд признал право бывшего супруга на долю в квартире. Достаточно было того, что первый 10%-ный пай выплачивали вместе, а кредит выдавался на семью из трех человек. Суд не принял во внимание даже тот факт, что мужчина не сделал ни одной выплаты по кредиту. Якобы он выполнял функцию поручителя, а значит, платить должен только в том случае, если его бывшая жена отказалась это делать. Выходит, любой поручитель может претендовать на часть имущества, взятого в кредит?

— *В суд муж приносил какие-то справки, например, о том, что с ЖСК он рассчитался в 1999 году,* — демонстрирует женщина документы. — *Но это же чушь! Я погасила кредит в 2000 году. Да и сделала это без его помощи!*

Несправедливость решения женщина пыталась доказать в суде. Многочисленные нарушения зафиксировали, но делить жилплощадь по-новому никто не собирался. Бывший супруг Аллы не желал обсуждать варианты размена, доплаты или возмещения долгов.

— *Когда мы развелись, супруг заявил, что не собирается платить никаких денег на содержание дочери*, — вспоминает Алла Московкина. — *Но отвертеться не удалось. В отместку он терроризировал меня всеми возможными способами. Например, писал, что дочка ночует под лестницей. На протяжении нескольких лет у нас дома постоянно были проверки из детских садов и школ, каждый вечер приходил милиционер. Им же надо было отреагировать на сигнал, что ребенка пытают. Я фельдшер на “скорой”, так он писал, что ребенок мой ночует в грязной машине, “где возят инфекционных больных”...*

Жалоб и кляуз было так много, что бывшего супруга Аллы даже наказали за клевету. Алла Московкина пыталась обжаловать решения суда, но обстоятельства были сильнее. Неожиданно у ее дочери обнаружили затемнение в легких. Прогноз — злокачественное образование, рак. Пока мать с дочкой пропадали в больницах, папаша не сидел сложа руки. Он оформил комнату в собственность и, как только уладил все проволочки, избавился от имущества, за которое так долго боролся.

### «Долго не протяну...»

О том, что квартиру семья Московкиных делит уже с чужим человеком — господином Г., Алла узнала из жировки. Каким образом бывший муж умудрился продать комнату, женщина не может понять до сих пор. Никто не приходил осматривать жилплощадь, не было обмеров или других процедур. Кроме того, согласно Жилищному кодексу, прежде чем заключать сделку с чужим человеком, бывший член семьи должен предложить выкупить свою долю в квартире людям, с которыми он ее делит, или взять согласие на продажу. А главное, решение суда о разделе квартиры еще не вступило в законную силу. Московкина пыталась оспорить правомочность сделки, начался суд, но...

— *15 марта 2004 года бывший супруг переоформил комнату в нашей квартире на покупателя,* — вспоминает Московкина. — *14 мая его нашли мертвым... До второго заседания по иску о признании сделки недействительной он не дожил.*

*Вскрытие показало довольно большое содержание алкоголя в крови — 2,8 промилле. Но он никогда не злоупотреблял — работал водителем. Сначала на “скорой”, потом ушел в “Белтелеком”. Ему было всего 38 лет, он никогда не жаловался на здоровье.*

*У меня инвалидность из-за онкологии. Когда вся эта история только началась, бывший муж с новой пассией не стеснялись говорить нашим общим знакомым, что все равно мне эта квартира не достанется. Потому что не протяну долго... Еще тогда я сказала: “Не рой другому яму”. Оказалась права.*

Смерть бывшего мужа Аллы Московкиной оставила много вопросов, но следствие решило, что все это — череда трагических случайностей...

Спорная квартира “повисла” между двумя владельцами. В судебном порядке новый владелец зарегистрировал право собственности на *“жилую комнату размером 17,2 квадратного метра без мест общего пользования”*. Год спустя суд Московского района окончательно решил судьбу спорной площади — 17,2 метра в квартире Аллы Московкиной принадлежат Г. Остальные метры — собственность исключительно семьи Московкиных, и никто не имеет права пользоваться ею. Каким образом суд мог не учесть того, что новому жильцу в квартире придется каким-то образом попадать в свою комнату? Загадка, как и многое другое.

— *Техпаспорт, которым располагал Г. после покупки, был на комнату в квартире 174,* — указывает в бумаге Московкина. — *Вот только в доме всего 118 квартир! Моя квартира 74, а он пусть живет в 174-й.*

### Мой дом (или) тюрьма?

Смерть бывшего мужа Аллы Михайловны перечеркнула все попытки разобраться в том, была ли сделка законной. Хоть женщина и писала жалобу за жалобой, началась вторая часть изнуряющей борьбы за метры — вселение.

— *Я была на смене, когда мне позвонила диспетчер и сказала, что меня в истерике ищет дочь,* — вспоминает Московкина. — *Оказалось, ломают нашу дверь. Представьте, как испугался 13-летний ребенок, когда ни с того ни с сего незнакомые люди начали ломиться в квартиру!*

*К счастью, мы с бригадой находились недалеко, меня подбросили до самого дома. Когда я увидела у подъезда довольного Г. и поняла, что дверь ломают приставы, выскочила из машины в бешенстве, схватив кислородный баллончик из “скорой”.*

*Я понятия не имела, что в этот день кто-то приедет к нам вселяться. Специально написала заявление с просьбой отсрочить вселение, пока дело рассматривает суд вышестоящей инстанции, а я сутками нахожусь на работе. Да и что за молодчики дверь ломают? На площадке нет ни милиции, ни понятых, только судебный исполнитель.*

*Злосчастный баллончик я закинула в квартиру и попыталась закрыться изнутри. От дверей меня оттаскивали за руки. Я кричала так, что соседи выбежали мне на помощь. На этот раз дело закончилось ничем, Г. не вселился, а я в этот же вечер пошла снимать побои, писать заявление в милицию. Но вместо того, чтобы защитить меня и моего ребенка, мне вкатили штраф в 8 минималок. За оскорбление. Вот так и выяснилось, что одна женщина-инвалид восемь здоровых мужиков погнала...*

Алла Михайловна до конца готова была защищать свою жилплощадь. И даже прямой конфликт с законом ее не напугал.

— *Я пришла на прием к прокурору Московского района Минска, мы мирно говорили, и тут в кабинет ворвались бравые ребята в черных масках и заломали мне руки*, — рассказывает о жутких событиях женщина. — *Меня завезли в отделение, чтобы ночью перевезти на Окрестина. Медики отвезли меня в больницу с гипертоническим кризом. Пока две недели я лежала в больнице, меня, как отъявленного преступника, охраняла милиция. За что меня взяли? За то, что я якобы угрожала жизни и здоровью судебных исполнителей... Три месяца спустя они вдруг вспомнили, что я угрожала им огнетушителем. Это они так баллон с кислородом описали. Правда, так из них никто и не вспомнил, какого же цвета он был. Восемь свидетельств — и все разные...*

*Мы с адвокатом писали судье, что я инвалид, являюсь единственным кормильцем для несовершеннолетней дочери и матери-пенсионерки, что моя сломанная в автоаварии ключица не позволила бы нанести вред приставам... Но судья остался непреклонным — меня нужно изолировать от общества, так как, “находясь на свободе, буду препятствовать установлению истины”.*

17 дней Алла Михайловна провела в КПЗ на Володарского в ожидании суда. В итоге женщину признали виновной и приговорили к двум годам ограничения свободы без направления в исправительное учреждение.





### Ночные гости

Несколько месяцев Алла Московкина могла выходить только на работу, исправно отмечалась в местном РУВД, после попала под амнистию в честь юбилея Победы. Но даже после приговора женщина не бросила свою борьбу.

— *В 2010 году я часто работала в ночную смену,* — вспоминает Московкина. — *Как только я уходила и моя дочь оставались с матерью вдвоем, в дверь стучали неизвестные люди. Говорили, что из милиции, ищут меня. При этом удостоверений не показывали, не представлялись. Я написала заявление с просьбой разобраться, что же происходит. Ответ был просто шокирующим: на вас составлено два протокола. Когда, где, за что? Моя мама страшно переживала из-за этого, ведь однажды меня уже сажали. 1 мая у нее случился инфаркт, а 18 мая она умерла...*

*Самое страшное, что те самые таинственные протоколы исчезли. Их нет. Мне даже отказывались говорить, кто их составлял и за что.*

За 13 лет женщина испытала на себе многое из того, на что способна судебная машина Беларуси. Ее оппонент тоже, похоже, решил сдаться и избавиться от беспокойного имущества. С июля 2013 года комнатой владеет другой человек. О том, что у нее новые соседи, Алла Московкина вновь узнала из жировки.

— *Это было большой неожиданностью,* — признается женщина. — *Напоминаю, что в квартире мы по-прежнему жили одни, никто не приходил осматривать комнату или еще что-то в этом духе. Когда я написала письмо в ЖЭС с просьбой объяснить, куда делся предыдущий владелец и откуда взялся новый, мне заявили, что я “вмешиваюсь в семейные тайны чужих людей”. Вот так моя квартира стала чужой семейной тайной. Кроме того, ЖЭС выдал документы, где указано, что у нас, оказывается, общая кухня. Но ведь это не так! Внятного ответа, откуда взялся такой документ, мне так и не дали.*

Недавно Аллу Михайловну вызывали в милицию. Оказалось, что она “уклоняется от встречи” с правоохранителями. Уклонением назвали поездку на дачу в законный отпуск.

— *Когда я вернулась с дачи по просьбе милиционеров, оказалось, что на меня написано заявление от некоего Щ.,* — вздыхает Московкина. — *А теперь внимание: ему передарили комнату. Все тот же первый владелец Г.! Как ему это удалось? И продать, и подарить комнату...*

*Договор дарения на 17,2 метра был оформлен 3 числа, а 10-го этот неизвестный уже пишет на меня “телегу” за то, что я его якобы не пускаю. Но я даже не знала о существовании этого человека!*

### Неразбериха

Появление третьего владельца было тем внезапнее, что судебные разбирательства со старым еще не закончились. Как такое оказалось возможным? Суд просто ***потерял*** кассационную жалобу Московкиной, а вместе с нею и чек на оплату госпошлины. Нет жалобы, нет чека — нет и обжалования.

Еще в марте второй владелец комнаты подал в суд на изменение долей в праве собственности на квартиру. Мужчина пытался решить патовую ситуацию с местами общего пользования. Исковые требования были удовлетворены, даже несмотря на то, что истец несколько лет назад самолично добивался того, чтобы его право на собственность признали исключительно на купленные 17,2 метра. И снова судебная машина проявила чудеса: Московкиной, когда она пыталась доказать нелепость сделки, отказали. Зато стоило новому владельцу **спустя 8 лет** заявить о своих правах...

Жалоба именно на это решение затерялась в коридорах Московского суда. В документе женщина указывала, что попросту не знала, что в марте этого года ее метры снова делят. Не было ни повесток, ни писем, ни звонков.

— *В суде Московского района мне и моей дочери доказывали, что повестки на наш адрес были отправлены,* — рассказывает Алла Михайловна. — *Но мы их не получали! По закону повестку в суд должны вручить лично в руки или совершеннолетнему члену семьи. Если так не выходит, значит, повестка отправляется на адрес работы или учебы. В крайнем случае ее оставляют на почте, а информацию об этом кидают в почтовый ящик. Ничего подобного сделано не было. Даже на почте мне подтвердили, что никаких повесток на мое имя или имя моей дочери не приходило! Опять потеряли? Зато пришла повестка бывшему мужу. Покойнику... Все это я узнала уже после того, как прошел суд. Нас посчитали надлежаще уведомленными, и разбирательство прошло без нас.*

Алла Московкина надеялась, что в нарушениях суда разберется прокуратура, но ответа оттуда до сих пор нет. Сейчас в суде Московского района должны решить, отменить решение суда, которое переделило квадратные метры, или нет. Если потеря жалобы и отсутствие повесток признают достаточным основанием, то в жизни Московкиной начнется новый вертеп. Ведь у комнаты уже новый владелец!

### Банковские истории

Алла Михайловна утверждает, что уже давно не видела Г., а с новыми фигурантами вообще никогда не встречалась. Никто из них даже не пытался связаться с нею или ее дочерью и не приходил на суды. Зато вот уже два года домой Московкиной звонят банковские служащие. Оказалось, что некоторые из трех владельцев одной комнаты должны кругленькую сумму.

— *У меня дома есть пачки писем, которые я поначалу выкидывала, а после стала хранить,* — показывает Московкина несколько экземпляров. — *На всех — банковские штампы, и адресованы они бывшим и нынешним владельцам комнаты в моей квартире.*

Сейчас в суде идет процесс по вселению в комнату второго владельца.

— *Кто даст гарантию, что в нужный момент важный для меня документ вновь не потеряется?* — вздыхает Алла Михайловна. — *Или наоборот, не возникнет неизвестно откуда взявшееся свидетельство? Как, например, техпаспорт на комнату, который якобы был оформлен еще покойным мужем, а на деле был продемонстрирован только последним претендентом на комнату. Такого документа, как техпаспорт, на отдельную комнату вообще существовать не может! Где же хранилась эта бумажка 13 лет, почему так удачно появилась сейчас?*

Если жалоба Московкиной будет удовлетворена, то начнется новый суд. Но это лишь один из многих этапов пути. Сколько еще лет будут идти споры о квартире Аллы Московкиной, предугадать просто невозможно.

**Мария МАЛЕВИЧ.**

### ОТ РЕДАКЦИИ

***Можно сказать — трагическая история. И в ней не последнюю роль сыграли государственные службы. Кто, как не они, и должны помочь бедной семье найти выход из сложившейся ситуации?!***

### КОГДА ВЕРСТАЛСЯ НОМЕР

В понедельник с утра, когда верстался этот номер, стало известно о назначении даты сразу двух судебных слушаний по вселению в квартиру Аллы Московкиной. Вселения в комнату одновременно требуют два человека. Второй владелец комнаты господин Л., купивший жилплощадь, и господин Щ., которому комната досталась в подарок. Оба имеют все необходимые документы и, возможно, даже не догадываются о существовании друг друга. Правда, одному принадлежит только комната в квартире, где живет Московкина, а второму — еще и места общего пользования.

“Народная Воля” надеется дождаться финала этой истории...

ДИСКУССИЯ

# Без дна

Статья "Ненаучный скандал" ("Народная Воля" №89 от 12.11.2013 г.) не оставила меня равнодушной, хоть и не стала откровением. Такие публикации время от времени появляются в печати, но воз и ныне там. Отсюда следует неутешительный вывод: кому-то очень выгодно, чтобы все оставалось как есть.



Сразу хочу отметить, что я категорический противник ВНК (временный научный коллектив, который создается для выполнения договора), поскольку лучшую возможность для всякого рода злоупотреблений изобрести просто невозможно. Контрактная система, сделавшая "постылых" бесправными (а они, как правило, и являются истинными исполнителями), — дополнительный подарок этому клондайку. Такая белорусская научная модель пока еще функционирует, хотя проблемы уже накатывают девятым валом. Ведь "модель" требует от работника, если он не хочет быть выброшенным за ворота, молчания и рабской покорности, что удобно прежде всего для распила денег и тиражирования чужих ошибок, но к настоящей науке едва ли имеет какое-то отношение.

Я не знаю, насколько виновны исполнители (БНТУ) в данном конкретном случае и виновны ли они вообще, но после прочтения статьи возникает множество вопросов.

В первую очередь бросается в глаза какое-то странное отношение к случившемуся как заказчика работ (БМЗ), так и ответственного исполнителя (БНТУ). А ведь "разбанковано", судя по опубликованной информации, свыше 300 тысяч долларов США в эквиваленте. С учетом белорусских реалий заказчик выделил огромные деньги на выполнение "очень нужной работы", результаты которой ему почему-то не понадобились. Тогда что это было? Вопрос о возврате денег руководство БМЗ не ставило. По крайней мере по собственной инициативе. Лишь малая часть "освоенных" финансовых средств была возвращена предприятию, да и то только после возбуждения уголовного дела против бывшего директора БМЗ.

Обычно все договорные работы, тем более дорогостоящие, сдаются поэтапно. Грамотный исполнитель, если он честно выполняет свои обязательства, увидев бесперспективность проекта, должен своевременно поставить заказчика в известность. По крайней мере такой пункт всегда присутствует в договоре. Работа в некоторых случаях может быть прекращена при минимальных затратах уже на стадии научного поиска, когда все еще могут расстаться друзьями, а буква закона не будет нарушена. Доказать бессмысленность и бесперспективность чьих-то "пионерских" идей — это тоже труд, и порой тяжелый, за который работник имеет право получить вознаграждение. Но это уже другие деньги и другая ответственность. Правда, в наших условиях можно столкнуться с тем, что чем абсурднее проект или вариант его конкретного исполнения, тем более грандиозной может быть награда за такую прохиндиаду. Шальные деньги "своим" людям сваливаются порой на голову просто ни за что. Мне известен случай, когда за страницу, списанную из опубликованных работ (даже не собственных!), небольшая группа сотрудников ухитрилась "отпилить" свыше 120 млн рублей. Сколково отдыхает (имеется в виду разгоревшийся там коррупционный скандал).

Не спускать в унитаз деньги можно было бы, честно проводя конкурсы проектов, предложенных заказчику потенциальными исполнителями. Но эта процедура, как правило, нарушается или проводится формально, а ее результаты чаще всего предсказуемы — "сливки" только для "своих". Случайно это или оговорено заранее, но другие возможные участники отсекаются уже на дальних подступах. В некоторых случаях их пытаются использовать втемную, предлагая положить на стол готовое решение проблемы еще до подписания контракта с заказчиком, или могут потребовать не высовываться, когда все уже подписано. Кроме того, несостоявшемуся исполнителю могут сделать огромную "уступку", пригласив его "закрыть амбразуру", когда основной вал денег будет оприходован, а провал станет очевидным. И не факт, что такому исполнителю будут что-то платить. Не исключаю, что будущие жертвенные ягнята назначаются изначально: грешно не воспользоваться бесправными профи, загнанными в угол контрактной системой или жизненными обстоятельствами. По крайней мере такой вывод позволяет сделать мой собственный опыт работы в белорусской науке.

Отсутствие процедуры честного выбора давно стало причиной немыслимых пустых трат и всевозможных провалов. Белорусская научная модель так долго, так старательно и всеми способами избавлялась от неугодных и "неправильных" исполнителей, что оставит после себя, скорее всего, выжженное поле. С учетом последствий это больше похоже на диверсию, а не на жадность с глупостью, хоть и начиналось все именно с них.

Следующий вопрос — возраст ответственных исполнителей (одному из профессоров БНТУ 67 лет, другому — 72 года).

Я не собираюсь утверждать, что немолодые ученые бесполезны. Конечно, их личным опытом и накопленными знаниями не стоит пренебрегать. Они могут писать книги и учебники, быть отличными преподавателями или консультантами, если здоровье позволяет работать. Но брать на себя ответственность за дорогостоящие проекты, которые воплотятся в жизнь, когда "отцам" перевалит за семьдесят, это слишком смело. Ведь проблем на пути может возникнуть еще очень много. Тут невольно закрадываются нехорошие мысли. Наши законы, если мне не изменяет память, не позволяют в полной мере привлекать пожилых людей к ответственности. А если сюда добавить поток справок о резко пошатнувшемся здоровье тех, кто не смог по каким-то причинам надлежащим образом выполнить свои обязательства, тем более если вопрос о "разбанковке" всплывет через годы да после ареста какого-нибудь очередного чиновника... Вот тут и начинаются вопросы к руководству двух организаций — заказчику и исполнителю.

Организации-исполнителю выгоден любой вариант, ведь с каждого договора учреждение отчисляет себе кроме прибыли еще и приличные накладные расходы. Некоторые ухитряются установить их в размере 100% от фонда заработной платы по договору и даже больше. Значительная часть этих денег уходит на весьма достойную оплату труда людей, не имеющих к самому договору или к науке вообще никакого отношения. А поскольку зарплата в любом нашем учреждении давно превратилась в секрет №1, то фронт договорных работ для истинных патриотов (в прямом и переносном смысле слова) будет только неуклонно расширяться вместе с ростом стоимости заказов. Но зачем эта головная боль заказчику, особенно в тех случаях, когда после "разбанковки" он сам вынужден искать ответы на собственные вопросы и находить что-то вроде "нерентабельно" или "бесперспективно"? Это особенно интересно, когда заказчик по каким-то причинам не требует возврата денег от недобросовестного или безграмотного исполнителя, "перепутавшего", например, химическую формулу вещества, но получившего при этом умопомрачительное вознаграждение за предложенную схему переработки неведомо чего (в данном случае я не имею в виду БНТУ).

Мой личный опыт выполнения договорных работ — это скромная оплата, огромная ответственность и нечеловеческая усталость. Грядущая перспектива снова потрудиться на чужое благоденствие до дрожи в ногах и хронической бессонницы стала одной из причин, побудивших меня расстаться с белорусской наукой.

Но вернемся к упомянутой статье. Обращает на себя внимание явное несоответствие между затратами заказчика (300 тыс. у.е.) и размером компенсированных ему средств. Даже с учетом штрафов, которые в итоге составили львиную долю выплат, получилось всего лишь 600 млн "белочек". А ведь за штрафы надо еще побороться. Это что, результат наших регулярных девальваций, превративших скромное белорусское бытие в сказочный Сезам? К тому же возвращают деньги не их конкретные получатели, а учреждение из своей прибыли, которая формируется усилиями многих сотрудников. Значит, кто-то останется без заслуженной премии или его не повысят в должности, а кого-то и вовсе переведут на 0,5 ставки. У кого-то в лаборатории так и останутся стоять драгоценным прибором аналитические весы, которым уже перевалило за полвека, а кто-то будет носиться с пробирками по коридору туда-сюда, потому что у научного учреждения нет денег на центрифугу стоимостью всего лишь тысяча евро. У технарей, конечно, могут быть другие примеры, суть от этого не меняется. Но начальство себя точно не обидит.

А что касается плагиата, то это уже почти превратилось в норму. Смесь компиляций, подделок и подтасовок или перебрасывание данных с помощью ножниц и клея из одного научного труда в другой стали обычной практикой. Представить чужую работу как собственную; использовать документ, "скромно" убрав название и фамилию автора; изменить ради личной выгоды нежелательный экспериментальный "минус" на очень нужный "плюс"; расписаться за исполнителя, чтобы тот не увидел, чем отчитываются его хорошо оплачиваемые коллеги по проекту; скомпоновать свое "произведение" таким образом, чтобы нельзя было понять, где заканчивается авторская часть и начинается чужое поле, — это наша сегодняшняя реальность.

От "неправильных" рецензентов вовремя избавляются, включив, например, в договор пункт, согласно которому содержание работы не подлежит разглашению третьим лицам. С диссертациями еще проще. Иногда мне кажется, что проходной будет даже биография соседского козла, если об этом заранее хорошо позаботиться. Наши советы по защитам все больше напоминают брежневское Политбюро, куда кооптируют только "проверенных" и очень "надежных" товарищей. Поэтому не стоит удивляться, когда среди дорогостоящих исполнителей какого-нибудь проекта внезапно появляются фамилии людей уж очень солидного возраста. И ничего не докажешь. Я хорошо помню, как возмущался один из наших завлабов, бросивший заодно со всеми свой "белый" шар за очередную профанацию. На мой вопрос, зачем он, доктор наук, которому хорошо перевалило за 70, включился в общий хор, я получила примерно такой ответ: сам живи и дай другому; сегодня я буду честным с ними, а завтра они будут такими же честными со мной.

К сожалению, подобная "честность" уже привела к тому, что в научном рейтинге ***стран Восточной Европы*** белорусские организации занимают ***сороковое*** место. И Академия наук, кстати, к этому почетному месту не имеет ни малейшего отношения, как и зашкаливающее количество публикаций (главное белорусское научное знамя) некоторых наших ученых.

Ну а расправа с теми, кто честно выполнил свои обязанности (если это так на самом деле), хоть и поражает воображение, типична для белорусской научной модели. Избавляются не от настоящих виновников "торжества", а от тех, кто противится незаконным способам "освоения" финансовых средств щедрых или не очень щедрых "спонсоров". Мне, например, принесли уведомление о прекращении трудовых отношений вскоре после выхода моей статьи в "Народной Воле" в декабре 2011 года, хоть там не было никаких конкретных фактов злоупотреблений. А ведь работала я тогда с утра до вечера (интересы заказчика требовали), получая 1,3 млн рублей "грязными" (полставки) и отправив в печать за предыдущие четыре месяца три сложнейшие статьи по специальности. Четвертая ушла чуть позже, когда я уже не была бюджетным сотрудником. При этом все подготовленные материалы я провела через институтскую экспертную комиссию, что немаловажно для рейтинга учреждения, но смешно для меня с учетом того материального вознаграждения, которое я получала за профессиональное выполнение научных исследований. Правила позволяют поощрять сотрудника, причем прилично, но администрация не считает нужным увеличивать скудный паек "постылого" раньше, чем он напишет заявление об увольнении. Но и такой подарок не обязателен — можешь увольняться. Впрочем, скромная прибавка к зарплате едва ли может удержать работника, тем более что завтра с таким же успехом ее можно забрать обратно под любым предлогом.

Кстати, три из моих упомянутых выше научных статей сразу после появления в печати русскоязычной версии были приобретены международным электронным издателем Spinger Links. Их научное содержание имеет определенное отношение к одному дорогостоящему, но уже провалившемуся проекту. Сегодня его исполнители вполне счастливы — они "взяли хорошие деньги".

Вот это и есть наша шокирующая реальность. В нынешней белорусской научной модели в "умные" назначают, и среди них не предусмотрено место для неожиданных выскочек непонятного происхождения. В лучшем случае эту категорию граждан удостоят чести трудиться не покладая рук на интересы тех, кого им дадут в хозяева. Не согласны? Дверь — там! Вершители судеб уверены, что это высшая справедливость. Они с трудом понимают, почему "постылые" не радуются своему "счастью" и так неблагодарны за хлеб, который им позволяют зарабатывать в поте лица своего. Однажды где-то я прочла отличную фразу: ***совесть — это продолжение интеллекта.*** Лучше не скажешь.

Выбросить меня из института в начале 2012 года не позволили наш флагман и мои возмущенные коллеги, а чуть позже я ушла сама, не видя смысла обслуживать "модель". Правда, у меня остался вопрос: есть ли дно у бездны? Но, судя по всему, у нашей бездны дна нет.

**Наталья ШУЛЬГА,**
**кандидат химических наук,**
**бывший старший научный сотрудник.**

ЗАСЦЯРОГА

## *Ці не паўторым мы рыжскую трагедыю?*

Смуткую з нагоды трагедыі, што адбылася ў Рызе, горадзе, у які я закахалася яшчэ 16-гадовай дзяўчынай і якому шмат гадоў не здраджваю ў сваёй любові. Першая думка была, канечне, пра блізкіх сяброў-рыжан. Дзякуй Богу, бяда абышла іх бокам.

А калі першыя эмоцыі ўлегліся, стала больш уважліва чытаць паведамленні на розных сайтах. Асноўнай версіяй таго, што здарылася, называюць парушэнне патрабаванняў тэхнікі бяспекі пры ўладкаванні на даху гандлёвага цэнтра зімовага саду. Мая мама, якая ўсё жыццё працавала архітэктарам, адразу выказала меркаванне, што тыя, хто рабіў праект новаўвядзенняў, няправільна разлічылі нагрузку на дах і, хутчэй за ўсё, наўрад ці параіліся з праекціроўшчыкамі будынка. Але ж любы праект абавязкова праходзіць экспертызу; перш чым пачаць будаваць, трэба атрымаць вялікую колькасць узгадненняў і дазволаў. Мяркуючы па ўсім, для ўладальнікаў рыжскай "Максімы" гэта не стала праблемай.

І тады падумалася: а ці не па такой схеме атрымліваюць дазвол на будаўніцтва тыя, хто з імпэтам варвараў-знішчальнікаў узводзіць у Мінску жудасныя грамідлы, якія разбураюць атмасферу горада і вымушаюць мінчан адчуваць сябе ў ім, нібы ў дэкарацыях да фільма жахаў? І ці не пачнуць гэтыя гмахі-пачвары, часцяком пабудаваныя аўральным чынам, з апярэджаннем графіка (каб начальнікі маглі ўбачыць пахвальную ўсмешку на тварах больш высокіх начальнікаў), рушыцца і абвальвацца?

А праект беларускай АЭС ці не так праходзіў узгадненне і адабрэнне?

**Аляксандра БАТУРЫНА.**

*Мінск.*

АБЗАЦАМ

## *Чаму 23-га?*

Па тэлебачанні паведамілі, што ёлачныя базары адкрыюцца ў Мінску 23 снежня і будуць працаваць да 31 снежня. Мне падаецца, што гэты тэрмін — не самы аптымальны. Мая сям'я — каталікі. І мы ставім ёлку напярэдадні Каляд. І, напрыклад, у гэтым годзе свята прыпадае на ноч з аўторка на сераду. І было б вельмі зручна купіць ёлку ў суботу і яе ўпрыгожыць. А 23 снежня — гэта панядзелак. Можа, яшчэ не позна, унесці змены ў графік продажу ёлак?

**І.П.МЫСЛІЦКАЯ.**

*Мінск.*

МУДРЫЕ МЫСЛИ



## *Луи де БОНАЛЬД:*

*"Государство может быть приведено в смятение вследствие того, что напишут газеты, но оно может погибнуть вследствие того, что они смолчат".*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Няхай жа путаны выконваюць планы

**Еўрапарламент і Савет Еўропы пастанавілі, што ў наступным годзе ўсе краіны пры разліку нацыянальнага даходу "будуць улічваць і прыбытак за кантрабанду, прастытуцыю, вытворчасць і гандаль наркотыкамі".**

*Сцвярджаюць з Захаду буржуі*
*(Я тут ніколькі не хлушу),*
*Што наш народ амаль бамжуе,*
*Бо грошай мала на душу.*
*Маўляў, таму народ — ахвяра,*
*Што нізкі валавы даход,*
*І тых пяцьсот даляраў —*
*Мара*
*Для нас ужо каторы год.*
*Такое слухаць сумна вельмі,*
*Тым больш што ўсё зусім не так.*
*"Закрыюць рот" буржуі-шэльмы!*
*Жывём мы тут не на "пятак"!*
*Яны, буржуі тыя, самі*
*(Мы не цягнулі за язык)*
*Усім краінам прапісалі,*
*Як трэба сёння весці ўлік.*
*Патрэбна ўлічваць абароты*
*Ад кантрабанды, наркаты.*
*А там такія грошы — што ты!*
*Кландайк, як кажуць, залаты!*
*Найперш цікавяць нас путаны.*
*Іх, так бы мовіць, хоць салі...*
*Той бізнес, ведама ж, не танны,*
*А ў абароце — не рублі.*
*На "стометроўцы"*
*У сталіцы*
*Валютны гэткі абарот,*
*Што банк не можа пахваліцца*
*Падобнай выручкай за год.*
*І хоць з гатэлямі не густа,*
*Аднак што ні вазьмі гатэль,*
*Дык то рассаднік для распусты,*
*А то і ўвогуле бардэль.*
*Дадаткам прастытутак хеўра*
*Штодня выходзіць на шашу.*
*О, колькі долараў і еўра*
*Яны прыносяць на душу!*
*Нам трэба вырашыць задачу,*
*Як падлічыць заробкі ўсе.*
*Хай аб даходах справаздачу*
*Путана кожная нясе!*
*Узнікнуць можа тут пытанне —*
*Пра гэта шчыра я скажу:*
*А як улічваць нам "путанне",*
*Якое ездзіць за мяжу?*
*Ні для каго няма сакрэту,*
*Што нашых дзевак за кардон*
*(На гора нам, на радасць свету)*
*"На працу" ездзіць легіён.*
*Як вырашыць праблему тую,*
*Няхай падумае Белстат,*
*Бо трацім "жылу залатую",*
*Каб паказаць даходаў шмат.*
*Нам закрываць не варта вочы*
*На іншую крыніцу: люд*
*Нярэдка кідацца ахвочы*
*У просты, у звычайны блуд.*
*Хоць тыя жарсці не з-пад пугі,*
*Аднак і маладзён, і дзед*
*Даюць каханкам за "паслугі"*
*Ці шакаладку, ці букет.*
*А гэта ўсё ж таксама грошы...*
*Дый да таго ж не казка — быль,*
*Што хтосьці дарыць ад раскошы*
*Кватэру ці аўтамабіль.*
*Размова йдзе не аб "капейцы"...*
*Як пусцім блуд у абарот,*
*Дык больш нат, чым еўрапейцы,*
*Мы мецьмем на душу даход!*
*І ганарыцца ўсюды будзем,*
*Што ён агромністы такі!*

* * *

*Ды толькі як жывецца людзям,*
*Звычайна сведчаць кашалькі...*

НУ І НУ!

## *Гэтыя таямнічыя «аб'ектыўныя прычыны»*

Уявіце сабе: яшчэ з Гродзенскай турмы мой сын Зміцер Дашкевіч перасылаў мне нумары хрысціянскай газеты "Колокол" з просьбай пераадрасаваць іх Яўгену Васьковічу, які адбываў і дагэтуль адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме №4.

Гэта я і зрабіў, дадаўшы да газеты суправаджальнае пісьмо. Праз некаторы час атрымліваю назад пасланую вязню газету ў нейкім самаробным канверце. І другая газета вярнулася без усялякіх тлумачэнняў. Нарэшце атрымаў ад Яўгена ліст з паведамленнем, што ніякіх газет ён і ў вочы не бачыў, а не адказваў мне з-за "аб'ектыўных прычын".

Вось дык нумар! Якія ж тут "аб'ектыўныя прычыны" ўвязаліся, што зняволенага пазбаўляюць права на атрыманне дасланай яму пошты? Можа быць, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь дапаможа мне разабрацца?

**Вячаслаў ДАШКЕВІЧ,**
**жыхар г.Старыя Дарогі.**

НЯЗРУЧНАЕ ПЫТАННЕ

# За халупу — як за палац

Добры дзень, любімая "Народная Воля"!

Вырашыла звярнуцца да вас з такім пытаннем: чаму, калі павялічваецца плата за камунальныя паслугі, не бяруць у разлік, колькі год дому і ў якім стане ён зараз?

Мая сяброўка жыве ў старым доме на Партызанскім праспекце. Дык у іх на першым паверсе драўляная падлога правалілася, таму што гадоў 10 таму палопаліся трубы з гарачай вадой і з таго часу такое час ад часу здараецца. Гэты дом яшчэ палонныя немцы будавалі. А паслугі ЖКГ жыхары аплачваюць, як і тыя, хто жыве ў больш сучасных дамах.

Можа, трэба ўзрост дома ўлічваць?

**Галіна БЯЛОВА.**

*Мінск.*



ТАК ДУМАЮ

## *Калі яму працаваць?*

Пачытаў у "Народнай Волі" аб прызначэннях кіраўнікоў у Гродзенскую і Мінскую вобласці. І не зразумеў мэты такіх перастановак, адобраных, а хутчэй за ўсё ініцыяваных, асабіста А.Лукашэнкам.

Мяне здзівіў той факт, што з Магілёўскай — найбольш адсталай у Беларусі — вобласці накіравалі кіраваць Гродзеншчынай малавядомага былога работніка райвыканкама У.Краўцова. Гродзенская вобласць заўсёды была ў перадавых, на добрым рахунку. Няўжо там няма сваіх годных кадраў, якія маглі б кіраваць рэгіёнам?

Акрамя таго, У.Краўцоў — ужо пенсіянер, яму 60 гадоў. Каб паглыбіцца ў справы рэгіёна, ва ўсім разабрацца, спатрэбіцца не год-два. Пытанне: калі тады яму кіраваць?

**Ю.А.СІЛЬВАНОВІЧ.**

*г.Ліда.*

